ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 44 (143) 24 - 30 лістапада 1995 г. Кошт 600 рублёў

ПАТАЕМНАЕ СТАНОВІЦЦА ЯВАЮ - ст. 2.

"БЕСПРЕДЕЛ" ПА-ВАЎКАВЫСКУ - ст. 3.

ЯБЛЫК З БАЦЬКОЎСКАГА САДУ - ст. 4.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## ПРЫКЛАД БЯРУЦЬ З ПРЭЗІДЭНТА

Мінулы панядзелак у гарадзенскай школе N 30 заняткаў не было. Іх адмянілі пасьля таго, як нехта паведаміў па тэлефону, што ў будынак закладзена міна. Суровыя дзядзькі-міліцыянты далі загад усім тэрмінова пакінуць школу.

Міну не знайшлі. Але ёсьць другое. Гармідар і напружанасьць у грамадстве, уседазволенасьць і беспакаранасьць. Якраз тое, што культывуе сваімі паводзінамі Прэзідэнт.

Што тычыцца міны, то міну, якую «заклаў» у сакавіку Аляксандр Рыгоравіч у Авальнай зале, таксама не знайшлі.

**Ул.інф.**

## ДАРАГІЯ ПАДАРУНКІ

З 16 лістапада на баланс горада перададзены ўвесь жылы фонд Міністрэства абароны. Гэта будынкі па вуліцы Шчорса, прасьпекту Касманаўтаў і ўвесь Фолюш. На тое, каб гэтыя аб'екты арганічна ўліліся ў структуры гарадзкой маёмасьці патрэбна прыкладна 16 мільярдаў. Аднак да канца года гораду выдзелена толькі 1,4 мільярда. Ды і то на паперы. Вялізных сродкаў патрабуе і перадача ў падпарадкаванасьць гораду 40 тысячаў лецішчаў, 20 тысяч гаражоў і 4 тысяч дамоў індывідуальнай забудовы. Хутчэй за ўсё, у бліжэйшы час будуць уведзены новыя падаткі, каб хоць крыху кампенсаваць чакаемыя ад гэтых падарункаў страты.

**В.ДРЭМА**

## ЛІЧЫЛЬНІКІ ДЛЯ ГАЗУ

У хуткім часе ў трох тысячах гарадзкіх кватэраў, да якіх падведзены газ, будуць устаноўлены лічыльнікі. У дадзены момант адпаведныя службы гарвыканкаму займаюцца абсьледаваньнем газавага сектару, каб высьветліць каму ставіць ільготныя лічыльнікі, а каму за поўны кошт. Усяго на вобласьць выдзелена пяць тысяч лічыльнікаў газу.

**В.Д.**




МІЛІЦЫІ НЕ ДА ВЫКАНАНЬНЯ СВАІХ АБАВЯЗКАЎ

## ЯК СТАЦЬ ДЭПУТАТАМ
### (ІНСТРУКЦЫЯ)

**Дзеючая інструкцыя распаўсюджваецца на ўсіх жадаючых стаць дэпутатам любога ўзроўню. Па-за гэтай інструкцыяй застаюцца старшыні калгасаў і кіраўнікі мясцовых органаў улады - іх шлях у дэпутаты іншы. Але ім гэта і не патрэбна (гл.вынікі травеньскіх выбараў).**

**Па-першае,** калі цябе вылучылі ў кандыдаты, ты павінен адхрысьціцца ад любых партый і рухаў, бо гэта толькі раздражняе выбаршчыкаў. БНФ -гэта, як усім вядома, фашысты; дэмакраты незалежна ад назвы партый (АДПБ, ПНЗ ці іншыя) - гэта балбатуны; камуністы - ужо мелі ўладу і што нарабілі; жырыноўцы, як вядома, - амаль што ўсе вар'яты. Толькі і застаюцца прыхільнікі піва, але яны ў выбарах не прымаюць удзелу.

**Другая справа** - на якой мове весьці агітацыю. Вядома, на дзяржаўнай. Але іх зараз дзьве. Вось і трэба весьці агітацыю на абедзьвюх. З тым, хто валодае толькі рускаю моваю - на рускай, хто размаўляе на беларускай - па-беларуску. А той, хто карыстаецца трасянкай - няхай чуе ад цябе адін сказ на рускай, а другі на беларускай мове. Гэта ўпэўніць кожнага з выбаршчыкаў, што ты ўсё зробіш так, як яны пажадаюць. А калі ты ня ведаеш беларускай мовы, то ў цябе няма іншага выйсьця, як у прэзідэнта: гаварыць, як Бог на душу пакладзе, але ўсім даводзіць, што ў сьвеце толькі дзьве вялікія мовы - руская і ангельская. У гэтым выпадку дазваляецца на заканчэньні размовы кідаць: «Гуд бай». (Барані вас Бог ляпнуць «Аўфвідэрзэн». Могуць накласьці ў карак).

**Трэцяе** з асноўных правіл. Вам патрэбна абраць для сябе лозунг. Ён павінен быць кароткі, гучны і бессэнсоўны. Напрыклад: «Закон вышэй усяго». Ці: «Дабрабыт, Справядлівасьць, Гонар». Горш гучыць: «Эканоміка павінна быць экалагічнай». Ад яго патыхае нечым непрыемным. Яшчэ лепей: «Розум, гонар і сумленьне», але гэты дэвіз ужо заняты. (Калі прапанаваныя дэвізы супалі з рэальна існуючымі, гэта супадзеньне выпадковае. Аўтар за гэта адказнасьці не нясе).

Што датычыцца палітычных поглядаў кандыдата, то пра іх лепей не разважаць наогул. Ціск трэба рабіць на тое, што ён зрабіў за сваё жыцьцё і на тое, што ён яшчэ зробіць для выбаршчыкаў. Раім даведацца ў жыльлёва-камунальным аддзеле, якія пытаньні хвалююць жыхароў раёну, дзе вы балатуецеся і ўсю сваю праграму будаваць на гэтых пытаньнях. Калі патрэбна заасфальтаваць дарогу, то вы павінны абяцаць, што асфальтаваць будзеце ўласнымі рукамі. Калі насельніцтва заелі камары, то, калі вас абяруць дэпутатам, вы з Японіі прывязеце сродак, ад якога дохнуць усе камары ў радыусе вашай выбарчай акругі. І ніводнага слова аб тых законах, якія вы будзеце распрацоўваць - гэта нікога не цікавіць.

Калі асабліва настырны і палітычна адукаваны жыхар будзе пытаць вас пра палітычныя погляды, то згаджайцеся з ім па усіх пазіцыях. Гарантуйце аднавіць усе ільготы, адмененыя прэзідэнтам, калі гэта пенсіянер. Калі ён прыхільнік прэзідэнта, паразважайце з ім аб тым, як шыкоўна выглядае Лукашэнка побач з Ельцыным у спартыўных трусах.

А на ўсе астатнія пытаньні кажыце, што кандыдат вы незалежны, таму ўсе рашэньні будзеце прымаць самастойна, кіруючыся ўласным розумам. Пры гэтым патрэбна важна стукаць сябе па лбу. Не перастарайцеся -звон пры гэтым не павінен гучаць.

Ну, вось і ўсё.

Так, яшчэ на передвыбарных улётках павінна быць фота з малымі дзецьмі. Калі няма ўласных, пазычце ў суседа. Я буду пільна сачыць за ходам перадвыбарнай агітацыі і калі кандыдаты будуць ужываць маю інструкцыю, то запатрабую ад іх сваю долю ў дэпутацкіх заробках.

Жадаю посьпехаў!

**Максім ГОРКІ.**

## ДРУГОГА ХЛЕБА ХОПІЦЬ ДА КРАСАВІКА

На склады бальніцаў і дзіцячых садкоў горада закладзена дзьве тысячы трыста тонаў бульбы. Па разьліках сьпецыялістаў, гэтай колькасьці «другога хлеба» павінна хапіць да красавіка. Не павінна быць перабояў з бульбай і ў крамах Горадні. На гандлёвых базах яе назапашана дастаткова. Перазімуем зіму, а там і шчаўе пойдзе...

## ГАСПАДАРСКІ ПАДЫХОД

На просьбу Расеі аб выдзяленьні тэрыторыі пад вайскова-марскую базу Украіна адказала таксай: за 1 кв.м сушы - 11 долараў у год, за 1 кв.м мора - 7 долараў. Адзін гектар мора дасьць ураджай у 20 разоў больш, чым гектар самай лепшай пшаніцы. І старшыня калгасу з аграномам не патрэбныя. Невялічкая база ў 100 гектараў зямлі і 100 гектараў мора дасьць 18 мільёнаў долараў у год. Вось бы нашага калгасьніка хто навучыў так ня сеяць і не жаць, а грошыкі зьбіраць.

**Кастусь АЛЬГЯРДОВІЧ.**

## «НЁМАНСКАЯ» ПЛЫНЬ НЕ МЯЛЕЕ

Кожнае новае прадпрыемства, якому ў наш час удаецца падняцца з кален, выклікае да сябе пэўную цікавасьць. Адно з такіх прадпрыемстваў -Бярозаўскі шклозавод «Нёман». Нядаўна чацьвёрты раз пабывалі Бярозаўскія майстры са сваёй прадукцыяй на кірмашы ў Франкфурце-на-Майне. Найбольшую папулярнасьць меў тут посуд з простага бясколернага шкла. Заключаны кантракт на пастаўку такога посуду на суму каля паўмільёна марак.

Нямала вырабаў «Нёмана» знаходзіцца на кірмашы ў Маскве. Там за два дні заключаны кантракты больш чым на 50 мільярдаў рублёў. Гэта больш квартальнай магутнасьці завода.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

## ГОРАД НЕ ЗАМЕРЗЬНЕ?

Напярэдадні зімы многіх з нас хвалюе пытаньне - ці будуць заўсёды цёплымі нашы батарэі? На гэты час кацельныя «Гроднаэнэрга» забясьпечаны мазутай на 100%, што здавалася б , гарантуе стабільнае забесьпячэньне цяплом нашых кватэраў. Аднак ужо зараз зьявіліся праблемы. Так, у сувязі са спыненьнем вытворчасьці на заводзе N 10 спынілася праца кацельнай прадпрыемства, якая ацяпляла таксама два жылыя дамы і дзіцячы садок. Зараз вядзецца будаўніцтва новай цеплатрасы, каб да вялікіх маразоў людзі не засталіся без цяпла. Самае кепскае, што гэты выпадак можа стаць толькі першай ластаўкай. Менавіта так ахарактарызаваў сітуацыю мэр Горадні сп. Крупенка. Ён жа адзначыў, што ня выключана, што гарачая вада ў кватэры зімой можа падавацца па графіку, як гэта робіцца ўжо ў Наваградку.

**В.М.**

## ПІЦЬ МЕНЕЙ НЯ БУДЗЕМ

Аб'ём прамысловай прадукцыі ў цэлым па краіне за дзевяць месяцаў 1995 года зьнізіўся на 11% у параўнаньні з аналагічным перыядам 1994 года. Больш чым на 20% меней выраблена прадуктаў, на 30% меней прадуктовых тавараў, а вось выпуск алкагольных напояў упаў усяго на 5,1%. Але, пэўна, гэты паказчык будзе хутка выпраўлены, бо на Беларусі значна больш чым летась сабрана бульбы і цукровых буракоў і толькі на 10% меней збожжа. Сыравіны для гарэлкі хапае.

**Ігнат ХІТРОВІЧ.**

**_ЗАКАНЧВАЕЦЦА ПАДПІСНАЯ КАМПАНІЯ!_**

На **"ПАГОНЮ"** Вы можаце падпісацца ў любым аддзяленьні сувязі. Кошт падпіскі на паўгоддзе - 48 тысяч рублёў, на квартал - 24 тысячы, на месяц - 8 тысяч рублёў.

**Не адкладвайце на заўтра тое, што можна зрабіць сёньня!**

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі Беларусі
"Белсаюздрук"

**АБАНЭМЭНТ** на газэту 63124

ПАГОНЯ

Колькасьць камплектаў 1

на 1995 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА**

ПВ | Месца | літар

на газэту 63124

ПАГОНЯ

| Кошт | падпіскі | 48000 руб. |
|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. |

Колькасьць камплектаў 1

на 1995 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозьвішча, ініцыялы)

# ГАЛАСУЕМ ЗА БЕЛАРУСЬ!



**Грамадзяне Рэспублікі Беларусь!** Колькі можна падманваць наш народ?! А.Лукашэнка абяцаў запусьціць заводы - і «запусьціў»: людзі па месяцами не атрымліваюць заробак. Абяцаў падтрымку пеньсіянерам - і адабраў у іх бясплатны праезд, абмежаваў магчымасьць сумленна падзарабіць. А сам за дзяржаўны кошт набыў асабісты самалёт за 45 мільёнаў долараў, будуе сабе тэнісны корт за 70 тысяч долараў. Абяцаў свабоду прэсы - а ідзе шалёны наступ на незалежны друк, і гэта пры жорсткай прэзідэнцкай цэнзуры ўсіх дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Абураўся фільмам «пра сьцюардэсу» - а сам рэкламаваў ганебную фальшыўку Ю.Азаронка «Ненависть: дети лжи». (Да гэтых выбараў рыхтуецца чарговы паклёпніцкі фільм). Абяцаў вярнуць людзям уклады каляровымі тэлевізарамі і халадзільнікамі - дзе гэтыя «каляровыя халадзільнікі»? Абяцаў пасадзіць кебічаўскую мафію - і пасадзіў: у дзяржаўныя крэслы. Цяпер кажа, што яму даспадобы грашовая прыватызацыя. Дык у каго ж грошы? Хто скупіць нашыя заводы? Мы? Ці галоўныя «завхозы» з адміністрацыі прэзідэнта?

Сваімі неадукаванымі, непрафесійнымі дзеяньнямі канчаткова разваліўшы эканоміку, А.Лукашэнка спрабуе цяпер усталяваць у краіне дыктатарскі рэжым, дзе б выконваліся не законы, а толькі ягоныя загады. Для гэтага ствараецца велізарная сьпецназаўская ахова прэзідэнта, умацоўваюцца «сваімі людзьмі» сілавыя структуры. Прэзідэнту не патрэбны Вярхоўны Савет, які б абараняў інтарэсы нашай краіны, нашага народу, які не даваў бы транжырыць народныя грошы. Яму патрэбны кішэнны Савет, які б служыў шырмай для яго незаконных дзеяньняў. І зразумела, чаму А.Лукашэнка так паталагічна ненавідзіць Народны Фронт, чаму баіцца, што яго прадстаўнікоў выбяруць дэпутатамі. За ўсе гады свайго існаваньня БНФ «Адраджэньне» казаў людзям толькі праўду, якой бы горкай яна не была, пасьлядоўна і непадкупна абараняў інтарэсы нашага народу. І таму, нягледзячы на тое, што ў краіне існуе шмат партыяў і рухаў, асноўная прапаганда ўладаў вядзецца супраць Народнага Фронту. Бо ўлады выдатна разумеюць, што ўдзельнікі Народнага Фронту не дапусьцяць развалу дзяржавы, не дадуць абрабаваць наш народ, не дазволяць уцягнуць нас у чужыя войны.

Маючы дакладна распрацаваную праграму вываду краіны з крызісу і высокаадукаваную каманду сумленных прафесіяналаў, БНФ «Адраджэньне» зьвяртаецца да грамадзянаў Рэспублікі Беларусь: давайце разам будаваць наш беларускі дом, каб у нашай краіне людзі жылі годна і заможна.

## ЛЁС БЕЛАРУСІ ВЫРАШАЕЦЦА СЁНЬНЯ

**Тое, у якім становішчы знаходзіцца Беларусь, абавязвае да самых рашучых дзеяньняў. Не пасьпеўшы стаць на дэмакратычны шлях разьвіцьця, яна трапіла ў лапы палітычных авантурыстаў, якія прывялі рэспубліку да неабальшавіцкай дыктатуры. Усе дзеяньні прэзідэнта скіраваны на пазбаўленьне Беларусі дзяржаўнасьці і супярэчаць прынятай канстытуцыі.**

Тое, з якімі тэмпамі цяперашні кіраўнік дзяржавы праводзіць свае рашэньні ў жыцьцё, гаворыць аб тым, што да наступных прэзідэнцкіх выбараў Беларусь прыйдзе без іншай альтэрнатывы, акрамя як быць састаўной часткаю Расеі. Падмяўшы пад сябе ўсю заканадаўчую дзейнасьць і прыціснуўшы папярэдні парламант, ён робіць усё, каб не абралі новы. Калі ж новы парламант і будзе абраны, дык яму пагражае скаканьне пад прэзідэнцкую дуду. Канстытуцыю, згвалтаваную ўказамі Лукашэнкі, чакае заўчасная сьмерць, альбо замена прэзідэнцкай падсьцілкай.

Галоўная зброя прэзідэнта - абыякавасьць нашага народу да свайго лёсу і прышчэплены за гады савецкай улады страх перад вышэйстаячым начальствам. Працягваючы спойваць народ таннай гарэлкай і штучна трымаючы інфляцыю, прэзідэнт спрабуе захаваць прыхільнасьць народу, які марыць аб стабільнасьці. Гэтая тактыка палітычнага і эканамічнага авантурызму вядзе да незваротных вынікаў. Адразу пасьля выбараў нас чакае рэзкі скок цэн на фоне гіперінфляцыі. Народ зьбяднее яшчэ больш і трапіць у поўную залежнасьць ад рашэньняў «бацькі».

Настаў час спыніць самаўпэўненага кіраўніка, якому, у лепшым выпадку, можна даверыць камандаваньне бандай катоўцаў часоў грамадзянскай вайны, а не кіраваць дзяржавай у цэнтры Эўропы. Неабходна скаардынаваць усе апазіцыйныя патрыятычныя сілы дзеля актыўнай палітычнай барацьбы з хунтай, якая з кожным днём становіцца больш нахабнай.

Калі ж мы ня спынім сьляпога ад сваіх ідэй пастуха, то загінем у прорве. Ня ў нашай моцы зьмяніць мінуўшчыну, але будучыня ў нашых руках. Наша сіла - у еднасьці.

**ЯНКА ТАТАРЫН**

## ЗВАРОТ ПАЛІТЫЧНАГА САВЕТУ АБ'ЯДНАНАЙ ГРАМАДЗЯНСКАЙ ПАРТЫІ З НАГОДЫ ІГНАРАВАНЬНЯ ПРЭЗІДЭНТАМ РАШЭНЬНЯЎ КАНСТЫТУЦЫЙНАГА СУДА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

У апошнія дні ў краіне адбыліся падзеі, якія якасна зьмяняюць палітычную сітуацыю. Пасьля таго, як Канстытуцыйны суд адмяніў пяць указаў прэзідэнта, прызнаўшы іх антыканстытуцыйнымі, прэзідэнт публічна заявіў, што ня будзе выконваць рашэньні Канстытуцыйнага суда і патрабаваў ад усіх дзяржаўных органаў безумоўнага выкананьня сваіх антызаконных указаў.

Гэта значыць, што ўслед за непрызнаньнем заканадаўчай улады ў асобе Вярхоўнага Савету, у Беларусі фактычна ігнаруецца Канстытуцыйны суд. Такім чынам, можна канстатаваць, што ў краіне ўстанаўліваецца рэжым асабовай улады, паколькі канстытуцыя спыніла дзейнасьць у поўным аб'еме. На месцы закона і права ў дзяржаве ўстанаўліваецца грубая сіла.

Аб'яднаная Грамадзянская партыя лічыць, што адказнасьць перад законам і гісторыяй будуць несьці разам з Лукашэнкам усе службовыя асобы, якія выконваюць адмененыя Канстытуцыйным судом антызаконныя ўказы прэзідэнта, а таксама партыйныя і грамадзкія рухі, якія спрыяюць парушэньню законнасьці.

АГП зьвяртаецца да ўсіх палітычных сілаў, палітычных партыяў, грамадзкіх арганізацый з заклікам стварыць шырокае грамадзкае Аб'яднаньне ў абарону канстытуцыі. Ягоная мэта - каардынацыя намаганьняў для ўстанаўленьня ў краіне канстытуцыйнай законнасьці, выконваньня рашэньняў Канстытуцыйнага суда, абароны дэмакратыі ад замахаў на яе з чыйго бы то ні было боку.

**15 лістапада 1995 года Менск**

## ЯК ГАРАДЗЕНСКІЯ ЧЫНОЎНІКІ Ў ДЗЬВЮХ ПАРТЫЯХ ЗАБЛУКАЛІ

**13 лістапада 1995 года Вярхоўны Суд Рэспублікі Беларусь аднавіў рэгістрацыю кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь па Лідзкай Сельскай выбарчай акрузе N 135 Маўчуна Уладзіміра Мікалаевіча. Патугі адпаведнай акруговай камісіі зьняць яшчэ да выбараў канкурэнта галоўнаму вертыкальшчыку раёна Антону Блюднiку аказаліся марнымі.**

Праўда, каб быць аб'ектыўным, трэба сказаць, што галоўную скрыпку тут граў не старшыня камісіі сп. Язэпаў, а чыноўнікі аблвыканкаму сп. Дайнэка і яго падначаленыя. Праявіўшы павышаную пільнасьць, яны запатрабавалі па кандыдатуры Маўчуна дадатковых зьвестак, хаця і ня мелі ніякага на тое права, бо сп. Язэпаў як старшыня камісіі ў ніякіх дачыненьнях з імі ня можа быць. Але, тым ня менш, былі запатрабаваны зьвесткі ці зьяўляецца сп.Маўчун сябрам абласной рады БНФ «Адраджэньне» і атрымалі ад старшыні рады Міколы Баўсюка інфармацыю, што не зьяўляецца. Усе довады, якія былі прыведзены пазьней, ніхто слухаць ня стаў і рэгістрацыя Маўчуна была скасавана таму, што «сп. Маўчун у раёне не жыве, не працуе і грамадзкай дзейнасьцю не займаецца». Цэнтральная Выбарчая Камісія пагадзілася з гэтым. А якжа Суд? А Суд на тое і суд, каб нарэшце ўбачыць, што Маўчун быў вылучаны Соймам Партыі БНФ, адной юрыдычнай асобай, а абласныя чыноўнікі ўвесь матэрыял зьбіралі па БНФ «Адраджэньне», зусім іншай юрыдычнай асобе.

Такім чынам, гарадзенскія чыноўнікі заблыталіся ў тым, што іх менскія калегі ўтварылі ў свой час, каб не дапусьціць Фронт да выбараў. Фронт тады свaечасова стварыў для ўдзелу ў выбарах Партыю БНФ і выйшаў са становішча. Але ўсе юрыдычныя хітрасьці для правінцыі тыпа Гародні аказаліся недасяжнымі. Яны, напэўна, і зараз не зразумелі, што ж было ня так у іхняй файнай задуме.

**ВАЦЛАЎ СЯРПІНСКІ**

## ПАТАЕМНАЕ СТАНОВІЦЦА ЯВАЮ

**З крыніц, якія выклікаюць давер, стала вядома, што Гарадзенскім УКДБ завершана праверка фактаў хабарніцтва і карупцыі ва Упраўленьні службы кантроля прэзідэнта па Гарадзенскай вобласьці, дзе начальнікам зьяўляецца С.Гараеў. Матэрыялы па гэтым фактам накіраваны ў пракуратуру, якая ўзбудзіла крымінальныя справы ў адносінах да двух супрацоўнікаў службы кантроля - Ульяненкава Ігара Міхайлавіча і Стрыгі Валянціны Станіславаўны.**

Спадар Ульяненкаў за суткі да ўзяцьця пад ахову адпаведнымі ворганамі быў тэрмінова звольнены па ўласным (?!) жаданьні са службы кантролю, таму што спадар Гараеў ведаў пра факты хабару з боку сваіх супрацоўнікаў. У адносінах да вышэй названых асоб вядзецца сьледства, а спадар Гараеў па сфабрыкаваным дакумантам змагаецца за мандат дэпутата Вярхоўнага Савету рэспублікі.

**Ул. інф.**

## АБЯЦАНКІ-ЦАЦАНКІ...

**Гарадзенскі штаб мясцовага корпусу распачаў інтэнсіўную палітычную дзейнасьць. Раз-пораз са штабу тэлефануюць у часткі і загадваюць выдзеліць па два ці больш вайскоўцаў з мэтай агітацыі за палкоўніка Кошалева. Добраахвотнікі на час агітацыі вызваляюцца ад службы, таму жадаючых хадзіць па Горадні ды наклейваць улёткі з плакатамі хапае. Гэта ж у любым выпадку лягчэй чым «цягнуць службу», хоць за агітатарамі сочаць.**

А ўлёткі таварыша палкоўніка, нібыта мяхі пілавіньнем, набітыя фантастычнымі абяцанкамі. Некаторыя з іх: «Вярнуць савецкія нормы аплаты жыльля і цэны на асноўныя прадукты харчаваньня, дзецям -піянерлагеры, маладым - працу, пеньсіянерам - хлеба ды лекаў, а мафіі - наморднік» (адзін ужо абяцаў...), а на дысерт, абяцанка даць роўныя правы ўсім - і прэзідэнту, і таму, хто зьбірае сьмецьце. Трэба, таварыш палкоўнік, ня толькі роўныя правы, а роўныя рэальныя магчымасьці, чаго дабіцца значна цяжэй.

**ВАСЮК ЦІКАЎНЫ.**

## НА ВЫБАРЧЫЯ ЎЧАСТКІ РАІМ ІСЬЦІ А СЁМАЙ ГАДЗІНЕ

Згодна з Законам аб выбарах, галасаваньне за кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савету на выбарчых участках пачынаецца ў сем гадзінаў раніцы, а ў месцовыя Саветы - з шасьці гадзінаў. Паколькі выбары зараз будуць праходзіць у адзін дзень, можа ўзьнікнуць сітуацыя, што прыйшоўшы ў 6 гадзін выбаршчыкі змогуць прагаласаваць толькі за кандыдатаў у месцовыя Саветы. Таму раім усім выбаршчыкам - прыходзьце галасаваць а сёмай гадзіне!

**В.Р.**

## І КУДЫ ГЛЯДЗІЦЬ ПАЗЬНЯК?

На радзіме лідара Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Зянона Пазьняка ў калгасе «Суботнікі» з траўня месяца не выплочваецца заработная плата. Але, тым ня менш, масавых папаўненьняў шэрагаў БНФ тут няма. Мусіць, як мяркуе газета «Іўеўскі край», калгасьнікаў суцяшае тое, што яны не адны такія ў раёне.

**Зьміцер ХІТРОВІЧ.**







# СУМЕЖЖА

## ЯБЛЫК З БАЦЬКОЎСКАГА САДУ

**Хавалі тату ціха, бяз пампезных цырымоній, аркестра, гучных прамоваў. Толькі свае: дарослыя дзеці ды ўнукі. Выконваючы апошнюю волю нябожчыка, цела везьлі на Радзіму - у атручаную Чарнобылем зону. Захацеў, небарака, у роднай зямельцы ляжаць...**

Усе гэтыя гады марыў вярнуцца дамоў, у адбудаваную сваімі рукамі хаціну з вялізным садам і агародам. Усе дзевяць год, што праляцелі з таго чорнага дня, калі на іх зямлю прыйшла радыяцыйная гібель і прымусіла вырваць карані з родных мясьцін, жыў надзеяй на вяртаньне. Колькі разоў намагаўся пакінуць няўтульныя гарадзкія сьцены! Колькі разоў, ужо хворы, прасіў вярнуць яго туды, дзе ён быў шчасьлівы, дзе зьведаў радасьць і каханьне, дзе прайшло жыцьцё!

Чарнобыль зламаў, разбурыў яго. Адабраў здароўе, сілы, памяць. Як не прыжываецца старое дрэва на новым перасушаным месцы, так ня змог прыжыцца ў новай кватэры стары Сямён - перасяленец з зоны...

Кажуць, без мінулага няма будучыні. Можа яно й праўда гэтак? Страціўшы мінулае, страціўшы самае дарагое - родны куточак, прытулак, людзі паміралі ня толькі ад радыяцыі. Ад невыноснай тугі паміралі... Маладым было лягчэй. Яны толькі пачыналі жыцьцё. Ім, урэшце рэшт, усё роўна, дзе яго пачынаць.

...Грамыкі сустрэлі пахавальную працэсію жудаснай цішынёй. Толькі вецер сьвістаў у галінках недагледжаных дрэваў і зьдзічэлых кустоў. Хаты, патанаючыя ў зарасьніках пустазельля, глядзелі пустымі вачніцамі. Нейкія нелюдзі павыдзіралі вაконныя рамы, дзьверы, разабралі падлогу. Няўжо разбагацелі на чалавечым горы?

Ля бацькоўскай хаты спыніліся. «Вось, татачка, мы й дома...» - прашаптала Надзя. Да болю знаёмыя мясьціны здаваліся «мёртвым горадам» з некалі любімай казкі. Не брахалі сабакі, не крычалі пеўні, не мыкалі каровы, не зьвінелі калодзежныя ланцугі... Не сьпяшаліся, як раней, падзяліць гора суседзі. Толькі сьляпая бабулька - адзіная на ўсю вёску жыхарка, якая засталася чакаць сьмерці ў роднай хаце, выйшла на гук пад'ехаўшага транспарту: «Вы хто?»

- Свае. Мы тату хаваць прывезьлі...

...У бацькоўскім садзе пасьпелі яблыкі. Яблыні, некалі любоўна пасаджаныя татам, гнуліся ад вялізных чырвоных пладоў. Водар восеньскага саду і прэлай лістоты дурманіў галовы. Гэта быў пах дзяцінства. Забыты і далёкі... Ішоў дзесяты год пасьля Чарнобыльскай бяды...

Першай не вытрывала Надзя. Яна сарвала і надкусіла празрысты наліўны яблык з нейкім невытлумачальным адчаем...

* * *

Назад ад'язджалі позна. Густая цемра запоўніла наваколье, пажыраючы ў сваім чрэве бязьлюдныя хаты і падворкі. І толькі на вясковых могілках блукалі агеньчыкі: сьвечы аплаквалі тых, хто некалі жыў тут, кахаў, будаваў, нараджаў дзяцей.

Пакідаючы мёртвага бацьку ў мёртвай вёсцы, Надзя прыціскала да грудзей яблык з бацькоўскага саду і суцяшала сябе думкай, што родны ёй чалавек, чыя душа заўсёды заставалася ў Грамыках, нарэшце, вярнуўся дамоў... Назаўсёды... Бо колькі б дарог не было ў жыцьці, яны абавязкова некалі канчаюцца...

**Ала БІБІКАВА.**

## РАСЕЯ

**У аўторак, 21-га, па «Маладзёжнаму каналу» Маскоўскага радыё прагучала выступленьне і адказы на пытаньні радыёслухачоў старшыні Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Расеі сп. Гушчына. Ён адзначыў, што вялікая Расея, нацыянальны гонар рускіх гінуць, былая веліч дзейнасьцю цяперашніх уладаў зьнішчана. Расею раздаюць, раскрадаюць і прадаюць, асабліва амерыканцам.**

Расейскія гарады, вуліцы, гатэлі, рынкі запаланілі «лица кавказской национальности» і азіяты. Гэта яны чыняць разбой, напады, гвалцяць рускіх дзяўчат. Трэба ачысьціць Расею ад гэтых элементаў, і можна гэта зрабіць за 72 гадзіны пры дапамозе войска. Няхай у сябе будуюць Вялікі Азербайджан, Вялікі Узбекістан!

Чым не імперская палітыка царскай Расеі па барацьбе з «иноверцами» і «инородцами»?

А можа нядрэнна было б папрасіць усіх «наездников», якія ненавідзяць незалежную Беларусь, не паважаюць карэнных жыхароў, іх гісторыю, культуру і мову, прыехалі сюды на беларускае сала і каб праводзіць палітыку асіміляцыі і зьнішчэньня беларускай нацыі, пакінуць гэтую сьвятую зямлю, палітую крывёю продкаў, якія змагаліся з акупантамі з Захаду і Ўсходу, і будаваць у сябе на радзіме веліч расейскай дзяржавы? Гэтыя людзі прыехалі сюды каб праводзіць «политику партии и правительства», ачмураць тутэйшых людзей шалёнымі ідэямі марксізму-ленінізму, весьці іх у сьветлую камуністычную будучыню, абіраючы да ніткі матэрыяльна і духоўна, робячы з гаспадароў гэтай зямлі, данай нам Богам, бязроднага, тупога, абыякавага «советского человека» - саўка.

Гэтыя людзі ня маюць нічога агульнага з нашай зямлёй, яна зьяўляецца толькі іх месцам жыхарства і правядзеньня антынароднай палітыкі. Гэта не народ Беларусі, а толькі частка насельніцтва.

Далей старшыня НДПР, гаворачы пра Чачню, адзначыў, што супраціў народу трэба задушыць авіяцыяй і другімі сродкамі, каб ня гінулі расейскія хлопцы ад чачэнскіх снайпераў.

За цяперашняе становішча Расеі нясуць адказнасьць, у першую чаргу, Козыраў, Чарнамырдзін, Чубайс і др. Апошні не такая важная фігура, якім быў калісьці Троцкі, якога нават у Мексіцы змаглі забіць.

Расею даўно ўжо пара перастаць раздаваць, а трэба прырошчваць. Калі б не такі слабы і бязвольны ўрад, даўно бы адбылося аб'яднаньне з Беларусьсю

Што можна яшчэ дадаць? Беларусь даўно ўжо згодна, сама просіцца, толькі Расея марудзіць «приростить Северо-Западный край»?

**Ю.Г.**

## ПОЛЬШЧА

**У нядзелю, 19 лістапада, у Польшчы адбыўся другі тур выбараў прэзідэнта краіны. На гэтую пасаду прэтэндавалі цяперашні прэзідэнт Лех Валэнса і лідар левых сілаў (былых камуністаў) Аляксандр Квасьнеўскі.**

У панядзелак дзяржаўная выбарчая камісія паведаміла афіцыйныя вынікі выбараў. Перамог і стаў прэзідэнтам Польшчы А.Квасьнеўскі, які атрымаў 51,72 % сапраўдных галасоў. За Л.Валэнсу прагаласавала 48,28% выбаршчыкаў. Выбары праводзіліся толькі на тэрыторыі РП, польскія грамадзяне за мяжой не галасавалі. У абсалютных лічбах Квасьнеўскі атрымаў на 646.263 галасы больш. З 28 062.409 чалавек, маючых права, прынялі ўдзел у галасаваньні 19.146.496, гэта амаль 70%.

Аляксандр Квасьнеўскі мае 41 год, нарадзіўся ў Бялогардзе на поўначы Польшчы, адукацыя вышэйшая па зьнешнеэканамічных зносінах. Прымаў актыўны ўдзел у камуністычных маладзёжных арганізацыях, працаваў журналістам, быў у двух апошніх камуністычных урадах краіны. Прадстаўляе аб'яднаньне левых (былых камуністычных) сіл Польшчы, зьяўляецца старшынёй Камісіі сейма (дарэчы ў сейме большасць былых камуністаў) па распрацоўцы новай Канстытуцыі. Жанаты, мае дачку. Ну а яшчэ, калі цікава, мае кватэру 75 кв. м, зямельны ўчастак пад будаўніцтва, ды яшчэ адзін участак для адпачынку.

Выступіўшы пасьля афіцыйнага абвяшчэньня вынікаў выбараў, А.Квасьнеўскі падзякаваў сваім прыхільнікам, але адзначыў, што ён будзе прэзідэнтам усяго народа. Ён адзначыў вялікую гістарычную ролю свайго контркандыдата Л.Валэнсы, маючы надзею, што апошні можа многа зрабіць для Польшчы і будзе супрацоўнічаць. Квасьнеўскі запэўніў, што пачатыя ў 1989 годзе рэформы і надалей будуць праводзіцца, Польшча будзе рабіць усё, каб увайсьці ў эўрапейскае супольніцтва і НАТА.

Новы прэзідэнт будзе прыведзены да прысягі 23 сьнежня, якраз перад Калядамі.

Выступаўшы раней, прэзідэнт Лех Валэнса сказаў, што ён не чакаў такіх вынікаў выбараў, але выбар грамадзтва трэба паважаць.

У цырымоніі прыняцьця прысягі новым прэзідэнтам ён прымаць удзел ня будзе, сустракацца і размаўляць з Квасьнеўскім не зьбіраецца, знакі ўлады і годнасьці прэзідэнта, якія атрымаў ад астатняга прэзідэнта Польшчы на эміграцыі, не аддасьць.

Л.Валэнса зазначыў, што ў яго яшчэ хапае энергіі і ён будзе езьдзіць па краіне, сустракацца з людзьмі і выкрываць перадвыбарчую хлусьню Квасьнеўскага, яго палітыку і абяцанкі, асабліва пра працу і кватэры для моладзі. Гэта будуць ня вулічныя баталіі, а палітычная барацьба. «Вось толькі цяпер пачнецца танец!» - сказаў ён. «Я атрымаў ад некаторых аплявуху. Але цяпер яе так аддам, як сказана ў «Старым запавеце», што аж сківаца выскачыць» - дадаў Валэнса.

Разам з прэзідэнтам зьбіраюцца адыйсьці і падалі заявы аб адстаўцы міністры замежных і ўнутраных спраў і абароны.

Уся ўлада ў Польшчы перайшла да былых камуністаў. Выбары сталі вялікай паразай каталіцкай царквы Польшчы, якая заўсёды падтрымлівала Леха Валэнсу. Як сказаў сакратар эпіскапату біскуп Пяронэк, цяпер настаў час роздуму, аналізу і выпрацоўкі стратэгіі ў сучаных умовах.

Час расставіць усё на свае месцы, час пакажа, што будзе далей, але, безумоўна, гэтыя падзеі ў Польшчы адгукнуцца і ў Беларусі.

**С.ГАРАДЗЕНСКІ**

*Антон Фурс*

# МЫ ЗАЎСЁДЫ ЛІЧЫЛІ СЯБЕ БЕЛАРУСАМІ

**(Заканчэньне. Пачатак у N 41)**

Былі ўжо прыцемкі, калі ўвесь картэж (пешшу) накіраваўся да царквы, да якой было кіламетры 4 ад іх дома. Ішлі нейкімі сьцежкамі, лугамі, нават прыходзілася здымаць абутак, калі пераходзілі праз ручай. Прыйшлі ўжо, калі было зусім цёмна. Бацюшка адкрыў дзьверы, запаліў некалькі сьвечак і так у прыцемку, за закрытымі дзьвярыма прынялі шлюб Маня з Лёвам. Адкуль маладыя едуць у г.Глыбокае (там жыла маці Мані), каб потым выехаць у Інту, бо тут ніякіх перспектываў для жыцьця ў іх не было.

Праз невялікі адрэзак часу я атрымліваю ліст ад Мані, каб абавязкова прыязджаў, бо прыехала Алеся. Я неадкладна еду. Калі зайшоў у пакой, убачыў прыгожую, сімпатычную дзяўчыну. Нас пазнаёмілі. Мы крыху паразмаўлялі і адразу адчулі, наколькі ў нас роднасныя душы, так многа было ў нас агульнага і ў сваёй долі, і ў поглядах, і ў перакананьнях. Адным словам - падабаліся адно аднаму. На другі дзень яна ад'язджала ў Паставы да сваіх сясьцёр. Я праводзіў яе на цягніку некалькі станцый, ня мог развітацца. Такой была наша першая сустрэча. Другі раз на сустрэчу з Алесяй я еду разам з Янкам Бабічам - сватам. Знаёмлюся з ейнай раднёй, дамаўляюся, што наступны раз я Алесю канчаткова забяру з сабой. Так я і зрабіў, пасьля чаго мы выехалі ў Карагандзінскую вобласьць, у пасёлак Новадолінка - туды, дзе я адбываў апошні тэрмін зьняволеньня. Тут і жылі амаль усё сваё жыцьцё.

Але чым даўжэй мы жылі ў Казахстане, тым больш хацелася пераехаць на Радзіму. Нарэшце мы адважыліся: адправілі ў Наваполацак дзяцей, дзе яны ўладкаваліся: дачка - на працу эканамістам, сын - у вучылішча нафтавікоў. А потым і мы ад'ехалі да іх купілі ў брата Алесі паўхаты і пачалося наша пенсійнае жыцьцё. Тут жыць хоць не лягчэй, але ўсё ж весялей сярод сваіх мясьцін. Часта наведваюць нас сябрыаднадумцы, за што мы вельмі ўдзячныя. Першымі наведаліся пісьменьнік Уладзімір Арлоў з жонкай. Гэта было незадоўга да сумнавядомых Дзядоў 1988-га года. Яны цікавіліся нашай арганізацыяй. Шмат чаго мы ім расказалі аб сваёй долі-нядолі. Усе былі вельмі расчуленыя, слухалі са сьлязамі на вачах. Вось менавіта гэтыя людзі і падштурхнулі нас, каб мы рабілі захады па рэабілітацыі. Але час тады яшчэ быў ня той, і толькі ў верасьні месяцы 1991 года мы падалі заяву аб рэабілітацыі на імя старшыні КДБ Беларусі сп. Шыркоўскага.

Зьмест заявы быў наступны (копія):

«Зьвяртаемся з просьбай аб рэабілітацыі арганізацыі «Саюз Беларускіх Патрыётаў (СБП), якая была створана ў 1945 годзе ў педвучылішчы г.Глыбокае і г.Паставы. Мэтай арганізацыі было «Адраджэньне Незалежнай Беларусі»»

Адказу мы не атрымалі...

У гэты час зьяўляюцца шматлікія артыкулы ў газетах «Наша слова», «Звязда», «Народнае слова», «Народная газета», «Настаўніцкая газета» і ў многіх раёнках. Пішуць пра СБП розныя людзі, у тым ліку і былыя яго члены. Першым закрануў гэтую тэму ў артыкуле «Патрыёты маўчаць не схацелі» Васіль Супрун. Ён зьмястоўна напісаў пра падпольле, якое дзейнічала ў пасьляваенны час. А дарогу гэтаму артыкулу, як, дарэчы, і многім іншым, адкрыў Э.Ялугін - рэдактар «Нашага слова». Ён жа напісаў і некалькі ўступных радкоў, у якіх выказаў шчырае жаданьне дапамагчы ў аднаўленьні справядлівасьці. Дзякуем яму за яго грамадзянскую мужнасьць.

Вядома ж, я і жонка адразу адгукнуліся двума артыкуламі: «Памяць -незагойная рана» (жонкай) і мой - «Усё яшчэ значымся ворагамі народа». Потым пісалі і Леў Бялевіч, Алесь Адамовіч, Люся Краенадубская, Герман Кірылаў, Тамара Барысюк, Альберт Ноўскі. Зьявіўся ў «Народнай газеце» артыкул нашага паэта, былога вязьня Сяргея Грахоўскага - з вялікім спачуваньнем у абарону нас. У Пастаўскай незалежнай газеце «Сумежжа», у «Звяздзе», у «Народным слове», а яшчэ раней і ў «Пастаўскім Краі» зьяўляюцца адзін за другім артыкулы карэспандэнта Алеся Касьцена. І ўсё гэта ў нашу абарону.

Потым я еду ў Менск і на кватэры Арловых знаёмлюся з народным дэпутатам Л.Баршчэўскім. Ён прапануе нам, кожнаму асабіста, напісаць заяву аб рэабілітацыі на імя народнага дэпутата РБ Г.Лавіцкага, які зьяўляецца намесьнікам старшыні КДБ Беларусі, а таксама знаходзіцца ў камісіі Вярхоўнага Савету па рэпрэсіях. Мы неадкладна пішам кожны ад сябе заяву, а Л.Баршчэўскі асабіста перадае іх сп.Лавіцкаму. Дагонару сп.Лавіцкага трэба зазначыць, што ён адразу ўзяў нашу справу пад асабісты кантроль і ў лістападзе 1992 года мы атрымалі першыя вынікі. Мы ведалі таксама, што многія нашы сябры яшчэ ў перадперабудовачны час пісалі заявы аб рэабілітацыі, але заўсёды атрымлівалі адмоўны адказ. А галоўным аргументам такога адказу быў прыгавор суда з такімі словамі: « Отторжение Белоруссии от СССР». Але ж цяпер Беларусь «отторгнута». Яна незалежная, суверэнная. Атрымліваецца, за што мы змагаліся, тое цяпер вітаем і не павінна гэта быць нейкім злачынствам. Вось так, дзякуючы бясконцым клопатам, у тым ліку і нашым, амаль усе члены СБП былі рэабілітаваны, на жаль, многія пасьмяротна.

Заканчваю свой нарыс-споведзь. Няхай ён застанецца і маім блізкім, і ўсім, хто гэтым зацікавіцца.

Мы былі галодныя і халодныя. Мы ня мелі маладосьці - яна была бессаромна раскрыжавана на калючым дроце лагероў і турмаў. Але ж не шкадуем ні аб чым, бо мы засталіся людзьмі і тады, калі большасьць сьпявала хвалу тырану, і тады, калі былі ў няволі, і тады, калі вярнуліся дамоў. Дзе б мы ні былі, мы заўсёды жылі і думалі пра свой народ і сваю Бацькаўшчыну. І калі з нас ніхто ня стаў значнай асобай у якой-небудзь галіне жыцьця, то гэта толькі таму, што на ўзьлёце нам моцна падрэзалі крылы.

Жыцьцё нашых сяброў набліжаецца да канца, а многіх ужо і няма. Вельмі шкада, што мы, напэўна, не дажывем да часу, калі Беларусь будзе па-сапраўднаму Вольнай і Незалежнай. А выжывем мы як нацыя толькі тады, калі аб'яднаемся на нацыянальнай аснове. Іншага шляху проста няма. Асабліва аб гэтым трэба памятаць нашай моладзі. Мы верым, што новае пакаленьне давядзе нашу справу да канца, нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы і на наступ чорных сіл.

**Жыве Беларусь!**

